вяку, чалавек багаціў свае знаньне, развіваў сваю памяць, і так, с пакалення ў пакаленне, людзі выкавалі страшэнную сілу—*чалавечы розум*.

Прызнаўшы тое, што над сьветам пануе ні кулак, а галава, нашыя заходнія суседзі вельмі шануюць розум і, дзякуючы яму, далёка папярэдзілі сваіх продкаў—зьвяроў. Ні лёгка уганяцца за імі чорнаму Адаму!

І. Рамановіч.

## Роднае мястэчко.

Цераз шлях пачтовы
Палыскнула рэчка...
Відны ужо будовы
Роднаго мястэчка.

Накрыж пралящелі
Вуліцы у будынку
І касьцёл у белі
Недалёка рынку.

Чутачку ў аддалі
Цэрква, сынагога
Контуры ўказалі
І красы німнога.

Там вучэльня-школа,
Почта ліставая,
Карчма ды стадола,
Воласьць мейсцо мае.

Вунь пакой прыёмны,
Фэльчар ды аптэка.
Магазын—склад скромны
Уселякіх лекаў.

Ля званіцы—брамы,
Ту-ж пры агарожы,
У рад пасталі крамы
Сьцярагчы дом Божы.

Журавы ад студні
Высунулі дзюбы.
У дзень сьвяты ці будні
Говар тут нялюбы.

Поянь быдло, коні,
Абліваюць сьвінні.
Скрып асьверу тоне
У гомані і гіне.

Цўкат верабейкі
Чуецца ў'прасторы,
Бытцам солад пейкі
Ля душы у горы.

Міла пераехаць
Праз сваё мястэчко...
Тут саломы вехаць,
Маніць, вабіць рэчка.

У мяйсцовым стылю
Хаты збудаваны;
Іх с сабой злучылі
Густыя парканы.

Меніцца у воку
Место дарагое
І тужу здалёку
Неяк да яго я.

197 xii16 Мінск А. З.

# Габрыелевы аллеі.

(*Брату Гаўрыку.*)

Дзен пяць ужо дрэннае надвор'е. Занінасьцілося. Цяжэрныя, чорна-сівыя хмары навісьлі над З., пахавалі горы, зьліліся з мокрым, тумацячым лесам і то там, то тута мутнеюць, палавеюць і пачынаюць сыпаць пылам драбнюсенькіх капачак.

Часам дужэй падзьме зьнеткуль вецяр; разьдзярэць мутную дзяругу хмар і патурыць па небу шкуматця аблок. Дажджавы туман курыцца далека-далека край неба, а наўкола пасьвятлело; уцекаючы да гор, пашуршэў астатні раз дожджык па шумячаму галлю і паказаліся ніжэйшыя горы—зяленыя там, гдзе лес, і шэра-скалістыя, гдзе німа яго, а макушка горы-асілка Б. уся у шпарка лятучых дымных воблачынках і патроху раскутываіцца з іх.

Блізка сонца відаць ужо сіняя палянка чыстаго неба, абкружэная празрыстымі, белымі краямі парваных хмар.

Шумяць клены. Стройныя елкі ніуважна і спакойна чуць калыхнуцца зяленымі лапкамі. Ізноў цямнеюць далі, сінеюць і туманяцца горы: ізноў зьбіраюцца валавяныя грамады, хаваючы нсбо; ізноў палавеюць яны,—і пасыпліцца, як скрозь сіто, драбнюсінькая марасіца.

Гэтае надворье канца курортнаго сэзону усе пільней кіруіць думкі да родных малюнкаў Бацькаўшчыны.

І сумота апанавала мяне.

А шчэ надоячы была пагода. Заліты цяплом, скрыпаў жвір пад нагамі на пляцыку у парку, бліщчэў на сонцы дыямэнтамі, аж сьляпіў вочы. Красавалі пьяныя кветкі і зьлівалі свой тонкі хмель с прыкрым пахам парфумэрыі ад людзей. Душная музыка млела у паветры, нэрвуючы і дражнячы, нібы наркотык.

Як далека адыйшло тое гулянне. Бытцым ні было сонца. Ізноў, як гэтыя хмары, заклубілося і паляцело у сумуючай душэ.

С патаемнай глыбі выпаўзае з войстрым джыгалам і зьмяінымі вачмі безнадзейнае пераконанне, што звалілося лятуценне сьветлае у смуродны бруд, балюча, а дарма і прыкра, зранено і ашукано сэрцо. Ой, паўзеш ты, поўзеш, пачуцце сьмяртэльнае!

Ціха, ніспадзеванна уцямілося, што іншэ раз душы з душою еднаньне ні па думцы зрабілося; агледзіўся, што і яно, ніпажаданае і проці волі налятеўшае, так сама дробненька, сорванна і будзенна: як зорачка ад цемнай хаты, далека ад яго чароўная і затаенная думка. Ой ні варта любіць: лепі думаць аб тым.

Асірацеў. Ізноў адзін ва ўсім сьвеці—

..Як колас той у полі, ні сьцяты у час жніва навостраным сярпом.

Не! Трэба уцекаць ад кіпшаў рэўнасьці, якія больна дзяруць німаючае волі сэрцо. Трэба развеяць горо, што сьмеў запрасіці думку з неба на зямлю, ды паміма розуму зрухтуваў ен тут абраз нягодны.

І мы паехалі с сябрам архітэктаром у К. Ен—масквіч, царкоўны рэстауратор, і ад яго павевае ціхім змрокам старых сабораў. Калі ен думае аб фрэсках, з яго воч іллецца ціхае сьвятло, як з воч людзей на малюнках Нэстэрова. У душэ яго звоняць старыя вечавыя званы, ціха сьпеваюць чарніцы ўраваленнаго у возера сьвятога града—Кітежа. Побач з ім так ціхамірна, як побач старых фрэсак.

Ад З. да К., як кажуць, верстаў шэсьцьдзесят. Тымчасам, калі у нас, сярод высокіх гораў, дождж і холад, там зьяіць жаркае сонцо, курортная публіка гуляе у легкіх летніх апратках. Ужо на палові дарогі, за П., значна сьвятлей і цяплей: адтуль відаць у бок К. далекі, сьветлы край неба, сіня-залаты, пагодлівы. Скрозь тоўстую, пыльную шыбу вагона дзіўлюся, як мільгаюць белыя мазанкі, плятні вінаграднікаў. Ад высокіх закурэлых трубаў цэмэнтнаго заводу цягнік крута загібае у левы бок, адкуль выплывае прыгожае место П., раскіданае у глыбокай лажчыні, на баках шумнай горнай рэчкі, сярод пяцех гор. Па шырокай вуліцы, па чорных засохлых камках гразі варушыцца доўгі абоз; пара за параю дыбаюць сівыя, крутарогія валы, цягнучы доўгія і вузкія драбіны с чэлавечай фігурай пад аграмадным, абвіслым брылем. Па гэтай вуліцы, па ліпкай гразі, у сьвежае, шчэ цемнаватае ранне, ці па едкаму пылу над сьпякотай, маршыраваў некалі са сваімі салдатамі вялікі поэт ніздаволеннасьці і сусьветнай журбы, крычэў тут с ташнатою: «напра-во! нале-во! рады-ы уздвой!» У тутэйшым сквэру удзячныя, хаця ж і ні знаючыя вершаў яго, патомкі зграмадзьдзілі яму нізграбны памятнік: на камню, у задумнай нібы-то позі, сядзіць рукой падпершыся, офіцэр с калмыцкім тварам і валавокім поглядам. Ен павінен дзівіцца у той бок, гдзе у ясную пагоду за больш сотні кіломэтраў блішчыць у небі срэбрам дзіўная, райскай прыгожасьці, гара над гарамі, Э. Такое наймення далі ей за яе дзьве макаўкі; у перакладзі с туземнага яно значэ—«Дзявочыя грудзі.» Улева ад яе, цягніцца глаўная хрыбціна гораў, белая, як крыгі сьнегу,

